ГРОДНА
№13 (565),
27 чэрвеня

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Стаўпы пачаткаў Касцёла



wikipedia.org

*29 чэрвеня адзначаецца ўрачыстасць святых Пятра і Паўла, двух найвялікшых апосталаў і будаўнікоў Касцёла.*

на староньцы 2

## Пілігрымка Маці Божай па Беларусі



catholic.by

*За тыдзень Багародзіца ў сваіх цудадзейных абразах пераадолела больш за 2 500 кіламетраў, беручы пад сваю апеку беларускі народ.*

на староньцы 4

## Як спадабацца свекрыві, каб не было хатняй "вайны"?



pinterest.com

*Адны з найскладанейшых адносін у сям'і – адносіны нявесткі і свекрыві. Як пазбегнуць канфліктаў?*

на староньцы 6

# ЧЭРВЕНЬСКІЯ І МАЁВЫЯ НАБАЖЭНСТВЫ: "МАГЧЫМА, БЫЎ НЕЙКІ МОМАНТ «ІКС», КАЛІ ГЭТА ЎСЁ АБАРВАЛАСЯ"



pixabay.com

**На нашых вачах сыходзіць у гісторыю традыцыя адпраўлення маёвых і чэрвеньскіх набажэнстваў ля прыдарожных крыжоў. Хутчэй за ўсё, падрастаючыя пакаленні будуць ведаць пра яе толькі з апавяданняў блізкіх. У чым прычыны і як ставіцца да гэтага працэсу?**

на староньцы 3

# З МІСІЯЙ У МЕКСІКУ

**Рэната Белая пакінула Гродна 12 гадоў таму. Скончыўшы школу, дзяўчына паехала ў Польшчу, дзе вучылася на факультэце польскай філалогіі, а нядаўна ў дадатак абараніла дыплом магістра тэалогіі. Жыве Рэната ў Кракаве, дзе піша для каталіцкага часопіса "Niedziela.pl" і вядзе "Ogród Maryi" ("Сад Марыі") – каталіцкую супольнасць для жанчын, накіраваную на раскрыццё жаноцкасці і павышэнне чалавечай годнасці.**

**Акрамя гэтага, дзяўчына з'яўляецца місіянеркай. Два гады таму яна была на сваіх першых місіях у Мексіцы і, пранікнуўшыся пакутамі асобных груп людзей, неўзабаве ізноў збіраецца наведаць гэтую краіну.**



*Рэната адчувае асаблівa блізкі кантакт з Маці Божай Гвадэлупскай*

на старонках 4–5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*Сэрца Езуса шырока адкрыта. Ён кліча да сябе ўсіх членаў Касцёла і тых, хто яшчэ не належыць да яго. У абразе, які Хрыстос наказаў намаляваць с. Фаўстыне Кавальскай, мы бачым Уваскрослага, які мае на руках і нагах сляды ўкрыжавання. З прабітага Сэрца выходзяць два прамяні: чырвоны і бледны.*

*Езус тлумачыў св. Фаўстыне, што бледны прамень азначае ваду, якая апраўдвае душы; чырвоны азначае кроў, якая з'яўляецца жыццём душ. Прамяні азначаюць святыя сакраманты, а таксама святы Касцёл, народжаны з прабітага бока Хрыста, і дары Святога Духа, біблейскім сімвалам якіх з'яўляецца вада. "Шчаслівы той, хто будзе жыць у іх цені, – казаў Езус с. Фаўстыне, – бо праведная Божая рука не дасягне Яго" (Дз. 299).*

*Езус Хрыстус адкрывае сваё Найсвяцейшае Сэрца, каб нашы ўстрывожаныя, хворыя ці зусім скамянелыя сэрцы маглі ажыць у Яго Сэрцы і такім чынам любіць Бога і чалавека. Таму будзьма ўдзячныя бязмежнай Божай любові, просьма прабачэння за адсутнасць узаемнасці і праз гэта яшчэ глыбей даручайма сябе Сэрцу Езуса, каб яно фарміравала нашы сэрцы.*



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

### 28 чэрвеня

**_Успамін св. Ірынэя, біскупа і мучаніка._**

*Св. Ірынэй Ліёнскі нарадзіўся каля 130 года ў Смірне, дзе быў вучнем св. Палікарпа, біскупа гэтага горада. Кіруемы апостальскім духам, ён адправіўся ў Галію. Пасля 177 года стаў біскупам Ліёна. У сваіх працах ён абараняў каталіцкую веру ад памылак гностыкаў. Як перадае традыцыя, быў закатаваны каля 200 года.*

### 29 чэрвеня

**_Урачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла._**

*Св. Пётр быў вучнем, якога Езус абраў, каб служыць прыматам Касцёла. Місіянерская руплівасць св. Паўла паспрыяла таму, што ён у многіх месцах прапаведаваў Евангелле і заснаваў Касцёлы. Заслужыў назву "Апостала народаў". Свсв. Пётр і Павел загінулі мучаніцкай смерцю ў Рыме ў 64–67 гадах падчас ганенняў на хрысціян у часы Нерона. Пётр і Павел, "надзеленыя рознымі дарамі, пабудавалі адзін Касцёл Хрыста".*

### 30 чэрвеня

**_Успамін Першых рымскіх мучанікаў._**

*Падчас першага праследу Касцёла пры імператары Нероне, пасля пажару ў Рыме ў 64 годзе, у жудасных катаваннях было забіта шмат хрысціян. Пра гэта сведчыць рымскі гісторык Тацыт і св. Клімент, біскуп Рыма, у "Першым лісце Клімента Рымскага да Карынцянаў" (раздз. 5–6).*

### 3 ліпеня

**_Свята св. апостала Тамаша._**

*Св. Тамаш не хацеў верыць ва ўваскрасенне Хрыста, пакуль асабіста не пераканаўся, што Езус жывы. Пераканаўшыся, ён вызнаў пасхальную веру Касцёла: "Пан мой і Бог мой". Пра яго жыццё мы дакладна нічога не ведаем, акрамя таго, што змешчана ў Евангеллі. Паводле традыцыі, ён дабраўся да Індыі і там прапаведаваў вучэнне Хрыста.*

### 6 ліпеня

**_Успамін бл. Марыі Тэрэзы Ледухоўскай._**

*Бл. Марыя Тэрэза нарадзілася 29 красавіка 1863 года ў аўстрыйскім Лосдорфе. Яна атрымала глыбока рэлігійнае выхаванне. Ва ўзросце 27-мі гадоў сышла з пасады прыдворнай дамы і прысвяціла ўсе свае літаратурныя і арганізацыйныя таленты справе афрыканскіх місій. Яна памерла 6 ліпеня 1922 года ў Рыме і там спачывае.*

# СТАЎПЫ ПАЧАТКАЎ КАСЦЁЛА

*працяг са с. 1*

**Хоць святыя апосталы Пётр і Павел былі вельмі рознымі ў сваіх паводзінах і ўчынках, Касцёл, тым не менш, ушаноўвае іх у адной урачыстасці. Яны адрозніваюцца багажом досведу, маюць розныя канцэпцыі абвяшчэння Добрай Навіны. Адзінае, што іх аб'ядноўвае, што маюць агульнага, што характэрна для іх абодвух – гэта любоў да Хрыста і да іншага чалавека, імкненне да адзінства і дыялогу, часам вельмі складанага.**

***Кс. Юрый Марціновіч***

Св. Пётр прайшоў школу Езуса, вандраваў з Ім, слухаў Яго вучэнні, быў сведкам цудаў, ацаленняў і ўваскрашэнняў. У яго былі і ўзнёслыя моманты, і моманты падзення, і нават момант адрачэння ад Хрыста. Наколькі ж важнай для св. Пятра была сустрэча з Уваскрослым Хрыстом, дзе мог сказаць, што любіць Яго, хоць гэтая любоў яшчэ не дасканалая, хоць падводзіць, каб пачуць: "пасі ягнят маіх, пасі авечак маіх..." (параўн. Ян 21, 15–16).

**Св. апостал Пётр пакінуў два лісты, якія належаць да кніг Святога Пісання Новага Запавету. Ён з'яўляецца апекуном бляхароў, будаўнікоў мастоў, кавалёў, каменшчыкаў, маракоў, рыбакоў і гадзіннікавых майстроў.**

За мужнае абвяшчэнне Добрай Навіны св. Пётр перажыў ганенне, але і асаблівае ўмяшанне Бога. У сваім першым лісце ён пісаў хрысціянам: "Сярод язычнікаў паводзьце сябе добра" (1 П 2, 12). Вернікі мусяць весці прыгожае, добрае і святое жыццё па вобразе жыцця Езуса. Іх не павінна здзіўляць, што іх будуць праследаваць, бо Хрыстос паказаў узор, які яны павінны пераймаць. У гісторыі нельга застацца нейтральнымі: ты альбо ахвяра, альбо праследавацель.

Св. Павел (Саўл з Тарса), хутчэй за ўсё, не сустракаў Хрыста падчас Яго зямнога жыцця. Таму такое вялікае значэнне мела навяртанне Паўла ў Дамаску. Ён быў фарысеем, рабіў упор на належным выкананні Закона, дадзенага Майсеем. Фарысеі бачылі ў няшчасцях вынік невыканання Закона, нявернасці Богу. У сваю чаргу, Езус і Яго паслядоўнікі былі менш руплівымі, таму Павел не мог іх прыняць. Ён чакаў прыходу палітычнага Месіі. Хрыстос памёр ганебнай смерцю, бо не выконваў Закон – вось чаму Павел пачынае змагацца з гэтай новай сектай.

Па дарозе ў Дамаск Павел перажыў навяртанне. Падзея была настолькі важнай, што св. Лука тройчы згадвае аб гэтым у Дзеях Апосталаў (параўн. Дз 9, 1–20; 22, 1–16; 26, 12–18). Апісанні адрозніваюцца дэталямі. Аднак кожны раз зададзенае пытанне гучыць аднолькава. Яно важнае, таму што ў ім знаходзіцца карані большай часткі тэалогіі св. Паўла.

Першапачаткова св. Павел не ведае, з кім мае справу. Калі Хрыстос дае яму сябе пазнаць, усё пачынае бачыцца ў новым святле. Раз Езус размаўляў з ім, значыць павінен быць жывы. Калі Павел сутыкнуўся з гэтай праўдай, зразумеў, што стаўленне да Закона і зняважальная смерць Хрыста не мелі значэння. Усё змянілася з-за таго, што Ён вярнуўся да жыцця. Гэта прымусіла Паўла прызнаць: "А калі Хрыстос не ўваскрос, то марная вера наша" (параўн. 1 Кар 15, 14). Калі дзейнасць супраць вучняў Хрыста азначала дзейнасць супраць Пана, то гэтыя рэчанасці павінны быць аднолькавымі. Затым у Паўла паўстала канцэпцыя Касцёла як Цела Хрыста (Рым 12, 4–5; 1 Кар 12, 12–27). Распачынаючы сваю місіянерскую дзейнасць, ён усведамляе сваю абранасць і пасланне да язычнікаў, якія павінны быць уключаны ў Цела Хрыста.


wikipedia.org

**Св. апостал Павел – аўтар 13 лістоў, уключаных у кнігі Новага Запавету, заступнік шматлікіх ордэнаў, а таксама маракоў, канатчыкаў і ткачоў.**

Дзве постаці – св. Пётр і св. Павел – такія розныя і такія падобныя. Св. Пётр у сваёй асобе паказвае нам, да чаго вядуць паводзіны, заснаваныя на даверы да Божай ласкі, і які вынік паводзін, заснаваных толькі на веры ў чалавечыя магчымасці. Св. Павел вучыць нас усімі сіламі прытрымлівацца Хрыста, з якім спачатку змагаўся, але пасля таго, як быў Ім "заваяваны", стаў Яго адважным абаронцам і папулярызатарам. Яны абодва вучаць нас, што мы можам ісці да Госпада рознымі шляхамі.

# ЧЭРВЕНЬСКІЯ І МАЁВЫЯ НАБАЖЭНСТВЫ: "МАГЧЫМА, БЫЎ НЕЙКІ МОМАНТ «ІКС», КАЛІ ГЭТА ЎСЁ АБАРВАЛАСЯ". ІНТЭРВ'Ю З КАРМЭЛІТАМ

працяг са с. 1

**У размове з а. Юрыем Кулаем, кармэлітам, разбіраемся ў крыніцах заняпаду набажэнстваў у маі і чэрвені. Спрабуем намацаць гэтую рэчаіснасць, знайсці правільны падыход да яе. Разважаем і пра урбанізацыю, і пра стан веры, і пра сучасныя малітоўныя практыкі.**

Арцём Ткачук




*А. Юрый Кулай OCD – кармэліт босы, пробашч парафіі Божага Цела ў Мінску. Святарскія пасвячэнні прыняў у 2009 годзе. Паходзіць з Брэста. Шматгадовы аўтар рубрыкі "Школа малітвы" ў часопісе "Ave Maria".*

***– Айцец Юрый, у Вашай роднай мясцовасці былі традыцыі маёвых і чэрвеньскіх набажэнстваў? Якія ўспаміны засталіся?***

– Па мамінай лініі ў нас уся сям'я католікі. Бабуля жыве ў Камянецкім раёне, там вельмі традыцыйная парафія. Людзі, натуральна, не маглі штодзённа прыходзіць у касцёл, таму збіраліся ля прыдарожных крыжоў і маліліся літаніямі. Ці чыталі, ці спявалі – хто як мог.

У маёй роднай парафіі ў Брэсце таксама былі гэтыя набажэнствы. Усё афіцыйна: пасля св. Імшы адбывалася выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, спяваліся літаніі. Я як міністрант у гэтым актыўна ўдзельнічаў. Магу сказаць, што я асабіста прасякнуты гэтым. Для мяне натуральна, што май – гэта маёвыя набажэнствы, а чэрвень – чэрвеньскія.

***– Набажэнства ў касцёле – гэта адно, а ля крыжа – зусім іншае? Маю на ўвазе, перш за ўсё, цеплыню ўспамінаў, эмоцыі.***

– Так, зусім іншае. Людзі стараліся, упрыгожвалі крыжы кветкамі. Нярэдка было такое, што ў большыя вёскі нават стар прыязджаў раз на нейкі час, адпраўляў св. Імшу на гэтых месцах. Там быў такі клімат народный набожнасці, які ўражваў. Летам на вёсцы шмат працы, але людзі былі здольныя ўсё адкласці і сабрацца на набажэнствы.

***– Вось у такім цёплым ключы пра тыя часы нярэдка ўзгадваюць. Аднак, падаецца, гэта, усё ж, у большасці сентыментальнасць. Дзіцячыя гады, бабуля, вёска, крыж...***

– Мяне з сястрой бацькі на лета адвозілі да бабулі. Таму, канешне, для мяне як для дзіцяці гэта была сентыментальнасць: канікулы, добры час, які мы маглі правесці разам... Але не толькі! Гэта таксама была вера старэйшых людзей, якія дбалі пра маёвыя і чэрвеньскія набажэнствы. Яны, напэўна, мелі болей працы, чым у горадзе, аднак для Бога знаходзілі час.

Таму для мяне асабіста гэта і настальгія, і прыклад веры. Там усё перапляталася: і прырода, і рэлігійны змест. Усё было вельмі сімвалічна. Цяпер такога ўжо амаль не сустрэнеш. Нашы вёскі выміраюць, людзей становіцца менш.

***– Сапраўды, традыцыя маёвых і чэрвеньскіх набажэнстваў ля крыжоў паволі сыходзіць у гісторыю. Ці справа толькі ў тым, што гэтая малітоўная спадчына вымірае разам з вёскай?***

– Хіба што, справа менавіта ў гэтым. Моладзь з'язджае, старэйшыя застаюцца. А яны раней ці пазней паміраюць. Таму пра нейкую сістэматычнасць і перадачу традыцыі цяжка казаць. Калі вымірае вёска, то і звычаі выміраюць. Камусьці да крыжа ўжо цяжка дайсці – моляцца дома. Ведаю шмат такіх выпадкаў, калі "раней хадзіла, а цяпер няма сіл, дома адпраўляю набажэнствы". На жаль, такая тэндэнцыя ёсць.

Не скажу, што ў горадзе гэта занікае: людзі ўсё-такі прыходзяць на маёвыя ці чэрвеньскія ў касцёл. Аднак трэба прызнаць, што прыходзіць, перш за ўсё, старэйшае пакаленне. Моладзь ужо не мае такой свядомасці, патрэбы, звычаю.

***– Вось гэта цікавая рэч! Наша пакаленне – тым, каму цяпер 30-40 гадоў – вельмі міла ўзгадвае тыя часы, калі людзі маліліся пад крыжамі. Аднак нягледзячы на гэта, мы не прыносім традыцыю ў гарады. У чым справа?***

– Магчыма, быў нейкі момант "ікс", калі гэта ўсё абарвалася. Як правіла, у вёсках усё арганізоўвалі старэйшыя людзі. Мы былі, я б сказаў, толькі актыўна-пасіўнымі ўдзельнікамі. Пакуль існуе супольнасць вёскі, пакуль мы разам – яно лягчэй.

У горадзе кожны раз'язджаецца ў свой бок, і пачуццё супольнасці губляецца. Вядома, у кожнай парафіі ёсць набажэнствы, але людзей прыходзіць няшмат. Таму праблема, хутчэй, у самім чалавеку. Калі хтосьці хоча адрадзіць традыцыю, яму неабавязкова шукаць месца і ставіць крыж у сваім раёне, дастаткова прыйсці ў касцёл і запрасіць туды сяброў ды суседзяў. Аднак мы самі не адчуваем такой патрэбы. Умовы ёсць! Нельга ж сказаць, што ў вёсках набажэнствы былі, а ў гарадах няма. Я не чуў пра такія парафіі, у якіх не было б маёвых ці чэрвеньскіх. Можа, нейкія адзінкі.

***– У горадзе бывае дастаткова цяжка даязджаць да касцёла. Лагічна было б, што людзі могуць маліцца дома. Аднак душпастыры прызнаюць, што з усёй масы людзей, якія маюць цёплыя ўспаміны пра гэтыя набажэнствы, вельмі невялікая частка адпраўляе іх дома.***

– Так, гэта вельмі малы працэнт людзей. Мы заахвочваем вернікаў маліцца ў коле сям'і, асабліва цяпер, падчас пандэміі. Аднак пагаджуся, што дома набажэнствы адпраўляе няшмат людзей.

***– Некаторыя душпастыры кажуць, што людзі часта баяцца фармалізму ў малітве і лічаць, быццам літаніі і Ружанец не маюць шмат сэнсу. Паводле такой логікі, іншыя – "рацыянальныя" – тыпы малітваў павінны быць больш папулярныя. Аднак усе пагаджаюцца, што католікі сур'ёзна занядбоўваюць чытанне Святога Пісання. Кола атрымліваецца крыху замкнёным...***

– Гэта вельмі асабістая справа. Я заўсёды заахвочваю вернікаў маліцца сваімі словамі. Бог не фармаліст, Яму не трэба шмат гаварыць. Трэба быць, прысвячаць свой час. Увогуле, малітва можа праходзіць і ў цішыні. Мне падаецца, людзі проста апраўдваюцца і не могуць знайсці час, каб пабыць з Богам.

Аднак прычыны не толькі ў гэтым. Свет змяняецца, людзі змяняюцца, Касцёл змяняецца ў сэнсе перадачы веры. Застаюцца старыя практыкі і з'яўляюцца новыя. У сучасным свеце шмат інфармацыі, мітусні, розныя справы... І гэта ўсё проста вымывае ў чалавеку мабільнасць у Божых справах. Вось некаторыя кажуць, што кніжкі чытаць нудна, што ўсё ёсць у інтэрнэце. Але ці чытаеш ты ў інтэрнэце, калі апраўдваешся, што цяжка чытаць кніжкі? У сеціве можна прачытаць сотні старонак з рознай інфармацыяй, але не знайсці некалькіх хвілін на пару старонак Святога Пісання.

Калі нас штосьці падціскае – пачынаем думаць, адпускае – зноў расслабляемся і плывем па цячэнні.

***– Нягледзячы на заняпад маёвых і чэрвеньскіх набажэнстваў, некаторыя традыцыі застаюцца вельмі папулярнымі. Пасхальная свянцонка, малітва за памерлых на ўрачыстасць Усіх Святых, асвячэнне машын... Усё гэта літаральна "напаўняе" касцёлы людзьмі. Чаму адны традыцыі адыходзяць у нябыт, а іншыя робяцца яшчэ больш папулярнымі?***

– Гэта справа веры. Спрадвечная праблема – чалавек складаецца не толькі з душы, але і з цела. І людзі сканцэнтраваны, перш за ўсё, на целе: што можна ўбачыць, да чаго дакрануцца, што можна з'есці. Гэта бярэ верх над духоўным.

Калісьці я смяяўся падчас асвячэння хлеба св. Агаты: людзей было больш, чым неадной-чы на абавязковую ўрачыстасць. Гэта быў будні працоўны дзень. Я тады пажартаваў, што, можа, нам варта асвячаць што-небудзь кожную нядзелю.

Калі мы асвячаем ваду, крэйду, машыны, хлеб, ежу ці яшчэ штосьці, у цэнтры ўвагі знаходзяцца прадметы, якія чамусьці служаць. А ў цэнтры маёвага ці чэрвеньскага набажэнства – сам Пан Езус, бо там заўсёды ёсць адарацыя. Таму, адказваючы на пытанне, яшчэ раз скажу, што гэта, перш за ўсё, праблема веры і асабістых адносін з Богам.

***– Падсумоўваючы нашу размову, падумалася: а ці ўвогуле адміранне маёвых і чэрвеньскіх набажэнстваў – гэта дрэнна? Штосьці старое адмірае, а нараджаецца новае. Як Вам падаецца?***

– Усё ў свеце змяняецца. І гэта нармальна. Кожны для сябе выбірае той ці іншы элемент набожнасці. Гэта права чалавека.

Аднак не думаю, што гэтыя практыкі знікнуць ці памруць. Калі штосьці практыкуецца менш, гэта не азначае, што яно не практыкуецца. Можа, не сёння, можа, заўтра я пераканаюся ў неабходнасці нейкай малітвы. Часам патрэбен пэўны досвед, каб зразумець сэнс той ці іншай практыкі або малітвы.

Самае галоўнае – каб мы дбалі пра сваю веру. Малітва вынікае менавіта з яе. Якой будзе гэтая малітва – уже іншая справа. Варта задаць сабе пытанне: ці я ўвогуле малюся? Ці проста кажу, што я веруючы чалавек? Варта падумаць, колькі часу ў сваім жыцці я прысвячаю на малітву. Ці ёсць яна ўвогуле? Ці я не лічу Бога банкаматам, да якога прыходжу толькі тады, калі ёсць нейкая патрэба?




Верніцы адаруюць Пана Езуса каля прыдарожнага крыжа

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Папа прызначыў касцёльнага асістэнта ў Дыкастэрыю па камунікацыі

Святы Айцец прызначыў 40-гадовага італьянскага святара кс. Луіджы Марыя Эпікока касцёльным асістэнтам пры Дыкастэрыі па камунікацыі і аглядальнікам газеты "L'Osservatore Romano".

Кс. Луіджы з'яўляецца аўтарам шматлікіх кніг аб духоўнасці і выкладае філасофію ў Папскім латэранскім універсітэце. У 2019 годзе быў прызначаны дэканам Вышэйшага інстытута рэлігійных навук "Fides et Ratio" у Аквіле.

Пасады касцёльнага асістэнта пры Дыкастэрыі па камунікацыі і аглядальніка газеты "L'Osservatore Romano" дагэтуль не існавала. Яе ўвядзенне з'яўляецца працягам рэформы ватыканскіх СМІ.

### Самую старажытную выяву Унебаўшэсця знайшлі ў рымскіх катакомбах

Ватыканскія археолагі адкрылі самую старажытную выяву Унебаўшэсця. Яна знаходзіцца ў катакомбах Віньа-Каравільё, частцы комплексу некропаля св. Себасцьяна, які паўстаў на мяжы IV і V стагоддзяў.

У апошнія месяцы спецыялісты Папскай камісіі сакральнай археалогіі падрабязна вывучалі фрэску. Спецыяльная экспертыза і больш дэталёвыя даследаванні дазволілі распазнаць сцэну, натхнёную Унебаўшэсцем. На ёй Хрыстос у профіль, апрануты ў туніку і палій, які лунае на ветры. Яго правая нага стаіць на зямлі, а левая – на невялікім камені, правая рука выцягнута ўверх да воблака, з якога бачна рука Бога. Па баках – дзве асобы з распасцёртымі шырока рукамі, якія можна атаясаміць з апосталамі.

### Святы Пасад зрабіў заяву па Беларусі

"Святы Пасад працягвае ўважліва сачыць за развіццём сітуацыі ў Беларусі і крокамі, якія робіцца рознымі зацікаўленымі суб'ектамі, захоўваючы прыхільнасць да дасягнення дэмакратычных і мірных шляхоў рэалізацыі законных патрабаванняў беларускага народа", – гаворыцца ў афіцыйнай заяве.

Нагадаем, што 16 жніўня 2020 года, падчас нядзельнай сустрэчы з вернікамі, Пантыфік асабіста спаслаўся на тое, што адбывалася у тыя дні ў Беларусі. "Мае думкі кірую да дарагой Беларусі. З вялікай увагай сачу за сітуацыяй, якая склалася пасля выбараў у краіне. Заклікаю да дыялогу, спынення гвалту, паважання справядлівасці і права. Давяраю ўсіх беларусаў апецы Багародзіцы, Каралевы Супакою", – сказаў тады Францішак.

### Малітоўныя інтэнцыі на ліпень

**паўсюдная**

Молімся, каб у канфліктных грамадскіх, эканамічных і палітычных сітуацыях мы былі адважнымі і поўнымі запалу творцамі дыялогу і прыязнасці.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан бласлаўіў тым, хто адпачывае, пілігрымуе і праводзіць рэкалекцыі.

# КОПІІ ЦУДАДЗЕЙНЫХ АБРАЗОЎ МАЦІ БОЖАЙ З БЕЛАРУСКІХ САНКТУАРЫЯЎ ПІЛІГРЫМАВАЛІ ПА БЕЛАРУСІ


catholic.by

працяг са с. 1

**12–18 чэрвеня адбылася аўтамабільная пілігрымка копій найбольш славутых сярод католікаў нашай краіны абразоў Багародзіцы. За гэты час яны пераадолелі больш за 2 500 кіламетраў. Пілігрымка распачалася і скончылася ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Копіі абразоў з Будслава, Браслава, Брэста, Бялынічаў, Гродна, Гудагая, Лагішына і Тракеляў правезлі ўздоўж межаў Беларусі. Іх арыгіналы былі ў свой час каранаваны папскімі каронамі, што азначае прызнанне іх духоўнага значэння на нашай зямлі і за яе межамі.

Малітоўная акцыя была арганізавана кс. канонікам Уладзіславам Завальнюком, пробашчам парафіі св. Сымона і св. Алены ў Мінску (Чырвоны касцёл). Падчас пілігрымкі яе ўдзельнікі посцілі і маліліся за нашу краіну, за з'яднанне беларускага народа, хутчэйшае аднаўленне будслаўскага санктуарыя пасля пажару, за ўсіх жыхароў краіны і ўмацаванне міжканфесійнага міру.

Пасля заканчэння пілігрымкі копіі абразоў Багародзіцы з васьмі беларускіх санктуарыяў на працягу некаторага часу заставаліся ў катэдральнай базіліцы ў Гродне, дзе іх маглі ўшаноўваць вернікі.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**УКРАІНА.** Святы Айцец прызначыў мансеньёра Вісвальдаса Кульбокаса Апостальскім нунцыем ва Украіне, адначасова надаючы яму годнасць арцыбіскупа. У краіне амаль год не было Апостальскага нунцыя. Папярэдні папскі прадстаўнік італьянскі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці 4 ліпеня 2020 года атрымаў прызначэнне ў Вялікабрытанію. 47-гадовы Вісвальдас Кульбокас нарадзіўся ў літоўскай Клайпедзе. Стаў святаром у ліпені 1998 года. Належыць да дыяцэзіі Цяльшай. Мае дактарат па тэалогіі і ліцэнцыят па кананічным праве. Валодае італьянскай, французскай, іспанскай, англійскай і рускай мовамі.

**БУРКІНА-ФАСО.** У Уагадугу, сталіцы краіны, вуліцу, дзе знаходзіцца Апостальская нунцыятура, назвалі ў гонар Бенедыкта XVI. У цырымоніі прынялі ўдзел палітыкі і рэлігійныя дзеячы. "Гэта выраз удзячнасці Папе на пенсіі, які заснаваў Апостальскую нунцыятуру ў Уагадугу 12 чэрвеня 2007 года і прызначыў арцыбіскупа Віта Рала першым нунцыем у краіне", – сказаў арцыбіскуп Майкл Фрэнсіс Кроці, цяперашні прадстаўнік Святога Пасаду ў афрыканскай краіне. У сваю чаргу, мэр сталіцы Буркіна-Фасо Арман П'ер Бэвуэндэ ахарактарызаваў Бенедыкта XVI як "чалавека, які заўсёды працаваў на карысць згоды паміж народамі, міжканфесійнага дыялогу і веры".

**ВЕНГРЫЯ.** На прэс-канферэнцыі ў Будапешце прымас Венгрыі кардынал Пэтэр Эрдзё прадставіў афіцыйны гімн 52-га Міжнароднага эўхарыстычнага кангрэса і кароткае відэа. Гэта падзея пачнецца 6 верасня і скончыцца 12 верасня св. Імшой, якую ўзначаліць Святы Айцец. Музычным фонам з'яўляецца новы гімн Міжнароднага эўхарыстычнага кангрэса 2021 года, "абноўленая версія арыгінальнай песні, напісанай для Эўхарыстычнага кангрэса ў 1938 годзе, калі Будапешт апошні раз прымаў такое мерапрыемства", – пішуць арганізатары. Відэа і гімн былі запушчаны ў Facebook, Instagram і Twitter. Кардынал Эрдзё таксама прадставіў "12 паслоў" Эўхарыстычнага кангрэса, выбраных з ліку вядомых мастакоў, музыкаў, спевакоў і паэтаў.

**ПОЛЬШЧА.** 1 кастрычніка 2021 года ў лакальным Касцёле ўступае ў сілу дакумент "Шлях фармацыі святароў у Польшчы. Ratio institutionis sacerdotalis pro Polonia", які вызначае новыя шляхі святарскай фармацыі. Дакумент быў распрацаваны Камандай па падрыхтоўцы новых прынцыпаў фармацыі святароў у Польшчы, што дзейнічала пры Камісіі па справах духавенства пад кіраўніцтвам біскупа Дам'яна Брыля. Дакумент надае вялікае значэнне, між іншым, інтэлектуальнаму развіццю будучых святароў.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# З МІСІЯЙ У МЕКСІКУ

працяг са с. 1

*Ангеліна Марцішэўская*

### МЭТА – СПАТКАЦЬ ЧАЛАВЕКА

*"Я здаўна захаплялася асобамі, якія служаць у якасці місіянераў, могуць сарвацца і паехаць далёка, цалкам аддаючы сябе Божаму Провіду. І, зразумела, сама мела ў сэрцы глыбокае жаданне служыць людзям у якасці місіянеркі. Дзякуй Усявышняму, да майго жадання далучыліся спрыяльныя акалічнасці"*, – дзеліцца Рэната.

Некалькі гадоў таму дзяўчына паехала працаваць у ЗША. Адтуль рукой падаць да Мексікі. Рэната, ведаючы, што гэтая краіна мае шмат унутраных праблем – карупцыя, наркотыкі, шматлікія забойствы, бездань розніцы паміж беднымі і багатымі, – вырашыла з'ездзіць у Мексіку, каб сваімі вачыма ўбачыць велічыню патрэбы. *"У першую чаргу, я накіравалася ў санктуарый Маці Божай Гвадэлупскай. Пасля правяла ў гэтым святым месцы шмат гадзін на малітве, просячы Святога Духа аб распазнанні сваіх прагненняў і дастатковасці сіл у імкненні служыць мексіканцам"*, – распавядае дзяўчына.

### КАПЛІЦА СА СМЕЦЦЯ

Неўзабаве Рэната апынулася ў Мексіцы ўжо ў якасці місіянеркі, адпаведна падрыхтаваная да таго, каб годна служыць людзям. Адно з месцаў, дзе ёй давялося быць памагатай – вялікая звалка смецця. *"У Мексіцы сметнікі займаюць безліч гектараў зямлі, гэта сапраўдныя «горы смецця», вялізныя тэрыторыі, якім не бачна канца. І самае прыкрае, што на гэтых звалках гадамі жывуць людзі: будуюць сабе шалашы са смецця, нараджаюць і гадуюць там дзяцей, там жа і працуюць, сегрэгуючы адходы і здаючы іх на перапрацоўку. Найбольш мяне ўразіла тое, што нягледзячы на нястомны клопат пра заспакойванне першасных патрэб яны клапоцяцца і пра духоўнае развіццё. Пасярод звалкі пабудавана капліца з кавалкаў дошак, фанеры і пластыку. Унутры яна цалкам упрыгожана вялікай колькасцю ружанцаў і крыжоў, таксама знойдзеных сярод смецця. І ведаеце, у такой прастаце я ўбачыла жывога Бога. Пра гэта мне засведчыў адзін з мясцовых беднякоў. У лахманах, сярод галечы, ён, адказваючы на маё пытанне «Дзе ж Бог?!», паказаў на сваё сэрца, усміхнуўся і сказаў: «Тут»"*, – узгадвае місіянерка.


У чэрвені ў Паўсюдным Касцёле моляцца ў інтэнцыі пакліканняў да манаскага і місіянерскага служэння

### ПРОСТА БЫЦЬ ПОБАЧ

Рэната ўпэўнена, што місіі – гэта не канкрэтны ўчынак. Гэта, перш за ўсё, прысутнасць. *"Харастcovo місій у тым, што табе не трэба мець адмысловых здольнасцей, каб ехаць служыць. Людзі маюць патрэбу ва ўвазе, любові, пашане, а гэта можа даць кожны ў любой форме. Аднойчы я проста падышла да жабрака ля касцёла і запрасіла яго сесці побач са мной на св. Імшы. Ён палову службы паварочваўся да мяне і дзякаваў. Падышла да малой дзяўчынкі на сметніку і пачала гуляць з ёй – тая адразу «расквітнела» і зрабіла мне малюнак у падзяку. Іншаму я проста вымыла рукі, другога пакарміла,*

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА


Алена Майсюк

# АТРЫМЛІВАЕМ УРАДЖАЙ, ВЫКАРЫСТОЎВАЮЧЫ ПРЫРОДНУЮ МУДРАСЦЬ




**Усё ў свеце ўзаемазвязана, таму ад нашых сённяшніх рашэнняў залежыць заўтрашні дзень. Знішчаючы прынцыпы прыроды, чалавек забірае будучыню ў сябе і нашчадкаў, а ўзнаўляючы заканамернасці біясферы, – захоўвае лепшыя ўмовы для жыцця. Падумаем, як прымножыць урадлівасць зямлі для будучых пакаленняў?**

**Пермакультура** *(ад англ. – “сталая сельская гаспадарка”)* **– гэта падыход да праектавання навакольнай прасторы і сістэма вядзення сельскай гаспадаркі, заснаваныя на ўзаемасувязях з натуральных экасістэм. Прадугледжвае стварэнне самафункцыянуючай замкнёнай сістэмы вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.**

### ВУЧЫМСЯ НАЗІРАЦЬ

Любая тэрыторыя, градка ці сад непаўторныя па разнастайнасці раслін, насякомых, кліматычных умоў. Разумеючы гэта, неабходна пачаць выкарыстоўваць індывідуальны падыход, які атрымаў назву пермакультура. Пераасэнсуйце старыя метады земляробства! Пачніце з вызначэння тыпу і кіслотнасці глебы, месцаў асветленасці і зацямнення ўчастка, выяўце, што абараняе расліннасць ад ветру і дзе адкрытая тэрыторыя, якую абдуваюць скразнякі, вывучце асаблівасці рэльефу ўчастка і мясцовага клімату, улічыце аддаленасць вадаёмаў.

### НЕ КАПАЮЧЫ, АТРЫМЛІВАЙ БОЛЬШ

Да з’яўлення сельскай гаспадаркі ўрадлівасць глебы рэгулявалася прыроднымі працэсамі. Іх лёгка ўбачыць, калі пастунова аддаваць ініцыятыву па клопаце аб урадлівасці раслінам, насякомым, мікраарганізмам і проста змене пор года.

Для раслін жыццёва неабходная рыхласць глебы, каб да каранёў паступала вада і кісларод, а глебавыя мікраарганізмы рыхтавалі пажыўныя рэчывы. Гэта паўнавартасная ўмовы для здаровага развіцця раслін, яе пладоў і насення. Перакопваючы і вырываючы дзікарослыя расліны, прыбіраючы камяні з градак і з-пад дрэў, выганяючы кратоў і мурашак з участкаў, чалавек парушае натуральнае вентыляванне глебы, яна становіцца зацвярдзелай і змярцвелай. Вось чаму прыдумалі хімічныя ўгнаенні, але яны не вырашаюць праблему, а, як лекі, маскіруюць следствы захворвання. Прычына ж нізкай урадлівасці – умяшанне ў экасістэму градкі.

Замест перакопкі пакасіце месца будучай градкі, прыкрыйце чымсьці шчыльным (гэта можа быць тоўсты пласт саломы, шыфер, кардон), каб сонечнае святло не пранікала і расліны не маглі расці. Так праз месяц уся непатрэбная расліннасць адамрэ, карані ператворацца ў сетку хадоў для паветра, вады, глебавых мікраарганізмаў, насякомых і чарвякоў. Вам дастаткова будзе пакрыць градку мульчай (салома, апілкі не хвойных парод, скошаная трава), каб зямля не перасыхала, а непажаданыя расліны не давалі ўсходы. Пасадзіце насенне ў невялікія лункі або лініі. Для такой градкі нават паліў не патрэбны, бо пад пластом мульчы і ў хадах адмерлых каранёў збіраецца кандэнсат, а сонца не выпарае акумуляваную вільгаць пасля дажджоў. Прапалка таксама не патрабуецца. На зіму неабходна шчыльна пакрываць градкі мульчай.

### НАВАТ ТЛЯ ДАПАМАГАЕ ДРЭВУ РАСЦІ

Для нечага ж былі прыдуманы насякомыя? Усе яны карысныя і патрэбныя для багатых ураджаяў. Тлю знішчаюць, знаходзяць яе натуральных ворагаў, а варта сесці і падумаць, што яна робіць у прыродзе – і лішняя марная праца чалавека застанецца тлі. Вясной, калі расліны прачынаюцца і ідзе рух соку, маладыя лісты пачынаюць выводзіць залішні сок, ён сачыцца і стварае праблему для фотасінтэзу. Тут і прыходзіць на дапамогу тля – яна злізвае лішкі. Падчас бурнага росту верхавін галінак чалавек спрабуе іх абрэзаць. Навошта? Ёсць тля! Яна здольна пракалоць толькі далікатныя лісточкі. Ягады спеюць, лішнія парасткі не растуць, чалавек задаволены. Прырода робіць усё з розумам.

Мурашкі на сваім шляху абеззаражваюць кіслатой глебу, кару дрэў, расліны. Яны ствараюць дадатковую вентыляцыю пад глебай і дапамагаюць у тэрмарэгуляцыі. А яшчэ абараняюць тэрыторыю, таму што аберагаюць расліны, каля якіх вырошчваюць патомства. Чарвякі пераворваюць зямлю, дапамагаюць яе вентыляваць і ствараюць урадлівасць, узбагачаючы глебу сваімі ферментамі. Паназірайце за іншымі насякомымі, якія яны важныя справы робяць для вялікага ўраджаю!

Збіраючы карэньчыкі ці вяршкі, пакідайце на градцы тое, што не будзеце выкарыстоўваць. Гэта і стане харчаваннем раслін у наступны сезон. Правільных Вам ураджаяў!

---

***трэцяму падарыла медалік з выявай Марыі...”*** – дзеліцца Рэната.

Паводле слоў місіянеркі, менавіта такое служэнне моцна ўпісваецца ў стыль Хрыста, які ў евангельскія часы проста быў сярод людзей.

### “УБОГАСЦЬ – ГЭТА КАЛІ МАЕШ 100 РЭЧАЎ, АЛЕ НЕ МОЖАШ ДАНЕСЦІ ЛЮБОЎ”

Чарговае месца, дзе да вялося служыць Рэнаце – “Дом убогіх жанчын”. Ён з’яўляецца прытулкам для тых асоб, якія зацяжарылі ў падлеткавым узросце, страцілі працу, жыллё, мелі цяжкі развод з мужам або яшчэ больш трагічнае мінулае – перажылі шмат абортаў ці былі выкрадзены для заняцця прастытуцыяй. У Доме жанчынам аказваюць неабходную матэрыяльную, псіхалагічную і духоўную дапамогу.

***“Мне найбольш запомнілася жанчына, якая трапіла ў гэты дом з палону прастытуцыі, а пасля сама пачала дапамагаць бліжнім. Яна сведчыла, што не памятае нават прыблізную колькасць мужчын, з якімі ёй давялося быць, што страціла фізічную здольнасць мець патомства. Аднак цяпер яна сама з’яўляецца духоўнай матуляй вялікай колькасці дарослых і дзяцей ды праз Хрыста дапамагае ім справіцца з драмай іх жыцця”***, – распавядае місіянерка.


Місіянерам можа быць кожны. Для гэтага трэба ўмець любіць і служыць іншым

Яе абавязкам ў гэтым доме была, ізноў жа, звычайная прысутнасць. ***“Я слухала гэтых жанчын, ставілася да іх з павагай, якая была ім так моцна патрэбна. Арганізавала адмысловыя рэкалекцыі, падчас якіх распавядала пра іх прыгажосць у вачах Марыі і Яе вялікую любоў да іх. Падарыла кожнай кветачку ружы, якія атрымала са сховішча санктуарыя Маці Божай Гвадэлупскай. Цікава, што людзі кілаграмамі штодзёна нясуць туды кветкі, і прыйшлося рабіць для іх адмысловы склад, бо не змяшчаюцца ў санктуарыі”***, – адзначае Рэната.

Як заўважыла місіянерка, усе гэтыя жанчыны – ці то са сметніка, ці то з дома для ўбогіх – маюць вялікі “голад” да прыгожага. Знаходзячы на звалцы сукенкі, выбіраюць найпрыгажэйшую, акуратна закалваюць валасы або робяць немудрагелісты макіяж. ***“Гэта яшчэ раз натхніла мяне на думку, што іх нястача – гэта не тое, чаго хоча для іх Бог. Ён заўсёды прагне для сваіх дзяцей годнасці. Справа ў тым, каб дзякаваць за тое, што маеш, умець дзяліцца і не рабіць са сваіх рэчаў «бажкоў», а мець іх, каб яны служылі табе для годнага, здаровага функцыянавання”***, – адзначае місіянерка.



Каб зрабіць чалавека крыху шчаслівейшым, часам дастаткова дробнага ўчынку міласэрнасці і некалькі хвілін увагі

### “МІСІІ – ГЭТА НЕ ЗАМОРСКІ КРАЙ. МІСІЯЙ МОЖА БЫЦЬ ТВОЙ СУСЕД”

Напярэдадні Рэнату чакаюць 2 летнія месяцы валантарыяту ў Мексіцы. Яна едзе туды з валізкай, поўнай ружанцаў, абразкоў ды цацак, і сэрцам, поўным Хрыстовай любові. На сабраныя ахвяраванні збіраецца дапамагаць кропкава: купляць патрабуючым ежу, ваду, лекі.

Нягледзячы на ўвесь запал, дзяўчына прызнаецца, што ізноў неаднаразва прыйдзецца пераступаць праз сябе: харчавацца амаль выключна фасоллю і дыхаць праз рот на сметніку. ***“Аднак за кожным такім крокам ідзе Божая ласка. І калі я ў чарговы раз пераступаю цераз сябе, я пераступаю да яшчэ большай любові. Бог прагне чалавека”***, – падсумоўвае місіянерка.

І праз нас Госпад можа дасягнуць кожнага, дзе б той ні быў, кім бы той ні быў.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК СПАДАБАЦЦА СВЕКРЫВІ, КАБ НЕ БЫЛО ХАТНЯЙ "ВАЙНЫ"?



**Кс. Павел Салабуда,**
*псіхолаг*

*працяг са с. 1*

Напэўна, самыя складаныя адносіны ў сям'і – гэта адносіны нявесткі і свекрыві. Як да гэтага даходзіць? Часцей за ўсё, не маючы дрэнных думак, нявестка скардзіцца маме на мужа альбо мужу – на маму. Канфлікты могуць тычыцца ўсяго: пачынаючы ад неналежнага вядзення хатніх спраў, няправільнага выхавання дзіцяці, няздольнасці кантраляваць свае эмоцыі, ажна да простай барацьбы за сына/мужа.

Безумоўна, кожнаму хлопцу неабходна маці, але не кожны памятае, што надыходзіць час пакінуць родны дом і заснаваць новы. Важна своечасова скарыстаць момант, калі "маленькі сынок" становіцца дарослым мужчынам і гатовы цалкам прысвяціць сябе сваёй, новай сям'і. Хоць і бываюць выпадкі, калі нявестка і свякроў застаюцца ў цеснай блізкасці, але часцей здараецца так, што на нейкі час канфлікт усё ж узнікае.

Што варта зрабіць альбо пра што падумаць, каб нявестка і свякроў не пачалі чарговую хатнюю "вайну"?

*1. Канфлікт заўсёды застаецца канфліктам, таму немагчыма пастаянна пазбягаць высвятлення яго прычын. Словы накшталт "нічога не здарылася" альбо "жанчыны з часам самі разбяруцца" не прывядуць да кампрамісу. Варта сесці і пагаварыць.*

*2. Члены падобнага сямейнага трохвугольніка мусяць нанова навучыцца правільным зносінам. Напрыклад, свякроў не павінна выказваць сваё меркаванне як загад, а паспрабаваць падаць яго ў прыязнай форме, як параду альбо просьбу.*

*3. Калі ў сям'і ёсць праблема, яна абмяркоўваецца ў прысутнасці ўсіх членаў сям'і. Сын/муж не можа ўвесь час "уцякаць" з дому на працу альбо ў гараж, не жадаючы ўдзельнічаць у размове паміж жанчынамі.*

*4. Маладыя людзі мусяць заўсёды памятаць пра павагу да старэйшых, бо ў будучыні ім абавязкова захочацца, каб іх дзеці паважалі іх. Усе павінны пачаць слухаць адзін аднаго.*

*5. Кожны член сям'і мусіць прыгадаць сваю ролю ў сям'і і абавязкі, звязаныя з гэтай роляй.*

*6. Маладая сям'я павінна самастойна прымаць рашэнні і несці за іх адказнасць, але ў моманты сумненняў заўсёды памятаць, што можна папрасіць парады ў старэйшых, усведамляючы, што ніхто не хоча насільна паказваць сваё меркаванне.*

Такім чынам, кароткае падсумаванне. Маці згаджаецца, што яе сын ужо мужчына/муж, сын трымаецца сваёй жонкі і сваёй маладой сям'і, жонка вучыцца паважаць свякроў. І тады сямейнае жыццё будзе працаваць у добрай атмасферы.

На завяршэнне мне хацелася б прывесці фрагмент са Святога Пісання з Кнігі Быцця, і гэта, напэўна, будзе лепшым рашэннем, каб не прыйсці да канфлікту: "Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці сваю і прылепіцца да жонкі сваёй, і стануць яны адным целам" (Быц 2, 24).

# КАСЦЁЛ, ПОЎНЫ СЮРПРЫЗАЎ



**29 чэрвеня адзначаецца ўрачыстасць двух найвялікшых апосталаў – Пятра і Паўла, якія з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Св. Пётр лічыцца першым Папам, пасвечаным самім Езусам. У сваю чаргу, св. Павел – адзін з найвялікшых настаўнікаў хрысціянскай веры.**

**З нагоды ўспаміну святых, што паклалі пачатак Касцёлу, знаёмім Вас з цікавымі фактамі, якія тоіць у сабе Ватыкан і Апостальская Сталіца – сэрца Паўсюднага Касцёла.**

## 1. Найменшая дзяржава ў свеце

Ватыкан – самая маленькая краіна ў Еўропе і свеце. Яго плошча складае ўсяго 49 гектараў – гэта менш за палову квадратнага кіламетра. Паводле апошніх статыстычных даных, у Ватыкане пражывае каля 850 чалавек.

## 2. Самыя кароткія рэйкі ў свеце

У Апостальскай Сталіцы знаходзіцца самая кароткая чыгунка ў свеце. Чыгуначная сетка складаецца са станцыі і 300 метраў рэек, пабудаваных падчас пантыфікату Пія XI. Яна выкарыстоўваецца, у першую чаргу, для транспарціроўкі грузаў, што ўвозяцца ў краіну, але ў выключных выпадках ужываецца таксама для перавозкі паломнікаў, якія прыязджаюць у горад. Ватыканская чыгунка спалучана з італьянскай сеткай і ў адпаведнасці з законам з 1929 года фармальна ўспрымаецца так, быццам знаходзіцца ў Італіі.

## 3. Найбольш турыстаў у свеце

Аўдыенцыі Папы, сакральныя святыні і візіты вядомых асоб спрыяюць таму, што сюды прыязджае шмат турыстаў – звычайна каля 6 мільёнаў у год. Менавіта ў Ватыкане прыпадае больш за ўсё турыстаў на аднаго чалавека, які пражывае тут пастаянна.

## 4. Самая папулярная пошта ў свеце

Паштовую службу Ватыкана апісваюць як адну з лепшых у свеце. З мясцовага індэкса адпраўляецца больш лістоў, чым з любой іншай кропкі свету. На працягу года Пошта Ватыкана адпраўляе каля 2,5 мільёнаў лістоў, 7 мільёнаў паштовак і каля 20 тысяч пасылак. Яна выпускае ўласныя паштовыя маркі, якія вельмі цэняцца ў свеце філатэліі.

## 5. "Самая мілітарызаваная краіна ў свеце"

Швейцарская гвардыя, якая чувае пры Пантыфіку, фармальна існуе з XVI стагоддзя. 22 студзеня 1506 года папа Юлій II прывёз у Ватыкан 150 швейцарскіх наёмнікаў. Чаму гэта былі менавіта швейцарцы? Іх лічылі адважнымі, дысцыплінаванымі і адданымі салдатамі. Сёння армія Папы налічвае 110 гвардзейцаў.

Салдат гвардыі павінен быць каталікам і швейцарцам. Ян Павел II некалі жартаваў, што жыве ў самай мілітарызаванай краіне свету. Прыблізна кожны дзесяты грамадзянін Ватыкана з'яўляецца членам Швейцарскай гвардыі.

## 6. Уласная астранамічная абсерваторыя

У 1576 годзе папа Рыгор XII даручыў пабудаваць вежу, якая павінна была выкарыстоўвацца для астранамічных назіранняў. Вежа Вятроў стаіць да сёння, і менавіта дзякуючы мясцовым назіранням быў рэфармаваны каляндар. Цікава, што адзін з кратэраў на Месяцы названы ў гонар нямецкага езуіта Хрыстафора Клавіуша (1538–1612), які быў астраномам і сааўтарам грыгарыянскага календара.

Тэлескопы Апостальскай Сталіцы размешчаны ў розных месцах. У 1980 годзе пры Універсітэце Арызоны ў Тусоне была створана рабочая група VORG. Затым на суседняй гары Грэям быў усталяваны сучасны тэлескоп VATT. Да таго ж у Ватыкане кожныя два гады праводзяцца Школы астраноміі для студэнтаў з усяго свету.

Варта дадаць, што 13 з 15-ці супрацоўнікаў Астранамічнай абсерваторыі пры Апостальскай Сталіцы з'яўляюцца езуітамі. Яны нястомна даследуюць касмічную прастору, імкнучыся вырашыць розныя пытанні, напрыклад, існаванне знака на небе, які прывёў мудрацоў да новanaроджанага Езуса – з'явы, вядомай як "Бэтлеемская зорка".

## 7. Алтар базілікі св. Пятра ў Ватыкане знаходзіцца ў месцы пахавання святога

Месцам пакутніцкай смерці св. Пятра ў Вечным горадзе была арэна на Ватыканскім узгорку. Цела апостала было пакладзена ў паганскім некропалі, які знаходзіўся на тым жа ўзгорку. Вельмі хутка месца пахавання стала месцам хрысціянскіх паломніцтваў, якія спачатку адбываліся таемна.

У IV стагоддзі імператар Канстанцін дазволіў вызнаваць веру ў Хрыста і вырашыў пабудаваць базіліку ў памяць св. Пятра. Алтар новага касцёла павінен быў стаяць на месцы магілы апостала. Калі ж была пабудавана цяперашняя цудоўная базіліка, папскі алтар таксама размясцілі над магілай святога. Пасля раскопак і даследаванняў, праведзеных па даручэнні папы Пія XII у 1939–1950 гадах, Святы Айцец афіцыйна пацвердзіў: там пахаваны князь Апосталаў.

Могілкі, на якіх спачыў св. Пётр, знаходзяцца на другім узроўні ў падзямеллі, на глыбіні прыблізна 10 метраў ніжэй базілікі.

*Апрацавала Ангеліна Марцішэўская*

*На падставе інтэрнэт-старонак Radio Vaticana, Aleteia.org, Onet.pl.*

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці можна быць упэўненым, што людзі, далучаныя да ліку святых, сапраўды заслужылі гэта?

*grodnensis.by*

*Найперш, трэба разабрацца, што маем на ўвазе пад словам "святасць". Святы – гэта не той, хто не мае ніякага граху, але хто жыве ў блізкіх адносінах з Панам і шукае Яго волю. На гэтым шляху заўсёды будуць цяжкасці і падзенні.*

*Калі чытаем гісторыі жыцця святых, можам заўважыць, як часта яны прыступалі да споведзі. Напрыклад, у "Дзённіку" св. Фаўстыны не аднойчы можна сустрэць, як яна крытыкуе сябе за слабасці і грахі. Але Бог любіць нас таму, што мы Яго дзеці, а не таму, што стараемся жыць правільна.*

*Тут можна прывесці прыклад келіха, якім святар карыстаецца падчас св. Імшы. Начынне можа быць залатым, дарагім ці старадаўнім, але яго каштоўнасць не ў золаце і каштоўных камянях, а ў Крыві Хрыста, што ў ім знаходзіцца. Гэта яна робіць келіх святым. Наша чалавечае жыццё заўсёды будзе слабым і грахоўным, у ім заўсёды будуць цёмныя бакі. Але Кроў Хрыста нас абмывае, ачышчае і асвячае.*

*Працэс далучэння кагосьці да ліку святых вельмі тонкі і працяглы. Касцёл уважліва вывучае ўсе бакі жыцця чалавека. Таму, калі мы глядзім на прызнанага Касцёлам святога, павінны разумець, што ў яго ёсць і другі бок, як у медаля – яго праца над сабой, нястомная малітва, пошук Божай волі і ласкі… Менавіта адсюль выходзіць плён, бачны іншым – дабрыня, справядлівасць, набожнасць, любоў, вера… Касцёл усё гэта аналізуе і ўказвае тым самым на святасць чалавека.*

*Асоба, якая імкнецца да святасці, не будзе хаваць свой грэх глыбока ў скляпенні сэрца, а наадварот – дастане, каб Пан яго ачысціў.*

# СЭРЦА, ЯКОЕ ВЕЛЬМІ ПАЛЮБІЛА ЛЮДЗЕЙ

*“Вось Сэрца, якое так моцна палюбіла людзей, што нічога не шкадавала – аж но да змардавання і знясілення, – каб даць ім доказы сваёй любові. А ў адказ ад большасці людзей яно спазнае толькі няўдзячнасць і пагарду, з якой стаўяцца да Мяне ў гэтым сакраманце любові...”*

*“Аўтабіяграфія” св. Маргарыты Марыі Алакок*

Людвіга Цыдзік




### ЛЮБОЎ НЕ ЛЮБЯЦЬ

“Сымоне, спіш? Ты не мог чуваць адной гадзіны?” (Мк 14, 37). Кожны з нас ведае, наколькі баліць грэбаванне, неразуменне, нездольнасць да спагады і чалавечая няўдзячнасць. Здараецца, што мы ад чыстага сэрца прысвячаем бліжняму нешта каштоўнае, а ў адказ не можам дачакацца нават звычайнага “дзякуй”. Як часта мы, людзі, абыякава ўспрымаем чыю-небудзь любоў і ахвярнасць як нешта відавочнае, што мы быццам заслужылі. Наколькі ж вастрэй Пан Езус адчуў боль адзіноты і смяротны смутак у Гефсіманскім садзе перад мукамі, калі Ён збіраўся ахвяраваць сябе за ўсё чалавецтва, а нават самыя блізкія, адданыя вучні не змаглі чуваць пры Ім і адной гадзіны ў такі прыгнятальны час.

У 1673 годзе Пан Езус аб’яўляецца сціплай манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Адведзінаў св. Маргарыце Марыі Алакок (1647–1690), каб сказаць ёй, як моцна чакае ад людзей любові і ўдзячнасці. Тады Пан Езус паказаў манахіні сваё Сэрца, поўнае агню, і сказаў: “Вось Сэрца, якое так моцна палюбіла людзей, а ўзамен атрымлівае няўдзячнасць і забыццё”. Збаўца жаліўся сваёй абранніцы, што людская абыякавасць выклікае ў Яго большае засмучэнне, чым усё, што пацярпеў падчас сваёй Мукі. Калі б Яго хоць крыху палюбілі, то ўсё, што выцерпеў дзеля чалавецтва, было б для Яго нічым, і прагнуў бы зрабіць яшчэ больш. Але на ўсе намаганні дабрыні Езуса людзі адказваюць халоднасцю і пагардай.

### СВЯТАЯ ГАДЗІНА

У свеце шмат асоб, якія не хочуць ведаць Бога, не паважаюць Яго, нават абражаюць, адкідваючы Яго любоў і ласкі. Яны не хочуць ні наблізіцца да Хрыста, ні выправіць крыўды, якія наносяць Яму сваімі беззаконнямі. Таму Пан Езус прасіў св. Марыю Алакок, каб узамен за адсутнасць удзячнасці, з якой сустракаецца Яго Сэрца і Яго любоў, набожныя душы ўзнагароджвалі гэтае Сэрца, параненае грахамі.

Ён пажадаў, каб у духу ўзнагароджання ў кожную ноч перад першай пятніцай месяца праводзіася гадзінная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. “А каб ты магла суправаджаць Мяне ў гэтай пакорнай малітве, якую Я тады ўзношу Айцу, устанеш паміж адзінаццатай і дванаццатай гадзінамі ночы, упадзеш на твар і правядзеш са мной адну гадзіну; будзеш заклікаць Божую міласэрнасць, каб выпрасіць дараванне для грэшнікаў, і будзеш старацца хоць крыху падсаладзіць Мне горыч, якую адчуў з-за таго, што пакінулі Мяне вучні...” (“Аўтабіяграфія” св. Маргарыты Марыі Алакок). Гэтая форма малітвы стала шырока вядомай як “святая гадзіна”, падчас якой вернікі трываюць на адарацыі ў блізкасці з Панам Езусам, узгадваючы Яго малітву ў Гефсіманскім садзе.

### КУЛЬТ СЭРЦА ПАНА ЕЗУСА

Падчас апошняга вялікага аб’яўлення, якое адбылося ў час адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ў актаве Божага Цела паміж 13 і 20 чэрвеня 1675 года, Пан Езус падаў ідэю святкаваць урачыстасць у гонар Яго Сэрца. З’явіўшыся сваёй даверанай асобе, Ён адкрыў уласнае Боскае Сэрца і, паказаўшы на яго, сказаў: “Таму жадаю, каб першая пятніца пасля актавы Божага Цела была прысвечана асаблівай урачыстасці для ўшанавання Майго Сэрца, каб у гэты дзень прыступалі да св. Камуніі і складалі ўрачыстую ўзнагароду праз публічныя акты перапрашэння, каб выправіць знявагі, прычыненыя гэтаму Сэрцу падчас выстаўлення на алтарах” (“Аўтабіяграфія”). Збаўца абяцаў, што Яго Сэрца будзе разліваць багатыя патокі Боскай любові над тымі, хто яму пакланяецца.

Культ Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў афіцыйна прызнаны ў 1765 годзе Кліментам XIII. Днём урачыстасці, паводле аб’яўленняў, была абрана пятніца пасля актавы Божага Цела. У 1856 годзе папа Пій IX устанавіў свята Найсвяцейшага Сэрца Езуса ва ўсім Касцёле. 11 чэрвеня 1899 года папа Леў XIII прысвяціў усё чалавецтва Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса.

Цэнтрам гэтага свята з’яўляецца Божая любоў, аб’яўленая ў Сэрцы Езуса. Мы павінны ўзгадаць пра вялікую любоў Хрыста да людзей і заклік, скіраваны да кожнага з нас. Не спі, прачніся! Дай Пану Езусу любоў, якую іншыя не хочуць Яму даваць. Любі Сэрца Езуса больш за ўсё на свеце, бо яно найбольш вартае любові!

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***27 чэрвеня – XIII Звычайная нядзеля***
***Мк 5, 21–24. 35b–43***

Калі Езус ізноў пераправіўся ў чаўне на другі бераг, сабралася да Яго мноства народу. А быў Ён каля мора. І вось прыходзіць адзін з кіраўнікоў сінагогі па імені Яір і, убачыўшы Яго, падае да Яго ных ног і моцна просіць Яго, кажучы: “Дачушка мая паміpае, прыйдзі, ускладзі на яе рукі, каб яна выздаравела і жыла”. І пайшоў з ім Езус. А вялікі натоўп ішоў за Ім, і цісnуліся да Яго. І прыходзяць ад кіраўніка сінагогі і кажуць: “Дачка твая памерла, чаго ты яшчэ турбуеш Настаўніка?”. Але Езус, пачуўшы сказаныя словы, кажа кіраўніку сінагогі: “Не бойся, толькі вер!”. І не дазволіў нікому ісці за сабою, апрача Пятра, Якуба і Яна, брата Якуба. І прыходзяць у дом кіраўніка сінагогі. І бачыць Ён мітусню, плач і вялікае галашэнне. І, увайшоўшы, кажа ім: “Чаго мітусіцеся і плачаце, дзіцё не памерла, але спіць”. І смяяліся з Яго. Але Ён, выгнаўшы ўсіх, бярэ з сабою бацьку і маці дзіцяці і тых, хто быў з ім, і ўваходзіць туды, дзе было дзіцё. І, узяўшы дзіцё за руку, кажа ёй: “Таліта, кум!” – што значыць: “Дзяўчынка, табе кажу, устань!”. І адразу ж устала дзяўчынка і пачала хадзіць. А было ёй дванаццаць гадоў. І замерлі ў вялікім здзіўленні. А Ён сурова загадаў ім, каб ніхто пра гэта не ведаў, і сказаў, каб далі ёй есці.

### З верай крочыць праз жыццё

*Мы становімся сведкамі таго, як мёртвую дзяўчынку вяртаюць да жыцця. Езус Хрыстус зноў робіць тое, чаго не здолеў зрабіць ніводзін лекар і ніводзін чалавек. Гэты цуд Настаўніка з Назарэта паказвае, што Езус не хоча, каб пакутавалі яго дзеці. Адзінае Яго жаданне – каб яны жылі з Ім у Валадарстве жыцця і міру, без цярпення, слёз і смерці.*

*Езус чакае толькі веры, нават калі яна маленькая, як гарчычнае зерне, бо вера чыніць цуды. Ён знайшоў такую веру ў бацькі загінулай дзяўчынкі, таму дазволіў яму вярнуць каханую дачку.*

*Сёння Езус фізічна не прысутнічае на зямлі. Аднак мы ўсё ж можам “дакрануцца” да Яго многімі спосабамі. Перш за ўсё, у кожнай Эўхарыстыі. Удзельнічаючы ў ёй з верай, прымаючы св. Камунію, мы не толькі дакранаемся да краю плашча Езуса, але і да Яго самога. Мы спазнаём Яго збаўленне і аздараўленне целам і душой.*

*Просьма аб чыстай веры, свабоднай ад усялякай магіі і забабонаў, даверайма толькі Богу, які пастаянна кажа кожнаму з нас: “Не бойся, толькі вер”.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне поўнасцю Табе даверыцца, бо ў Тваіх руках маё здароўе і жыццё. Усё, што маю, паходзіць ад Цябе!*

***4 ліпеня – XIV Звычайная нядзеля***
***Мк 6, 1–6***

Езус прыйшоў на сваю бацькаўшчыну. А за Ім ішлі Ягоныя вучні. Калі настала субота, Ён пачаў вучыць у сінагозе. Многія, хто слухаў, здзіўляліся і казалі: “Адкуль у Яго гэта, і што гэта за мудрасць, якая дадзена Яму, і як такія цуды чыняцца Ягонымі рукамі? Ці ж гэта не цясляр, сын Марыі, брат Якуба, Юзафа, Юды і Сымона? Ці ж не тут, сярод нас, Ягоныя сёстры? І сумняваліся ў Ім. А Езус казаў ім: “Няма прарока без пашаны, хіба што на бацькаўшчыне сваёй, у родных і ў доме сваім”. Таму не мог там учыніць ніякага цуду, толькі на некалькі хворых усклаў рукі і аздаравіў іх. І дзівіўся іхняму бязвер’ю. І хадзіў па навакольных вёсках, і вучыў.

### Адкрыць сэрца на дзеянне ласкі

*Дзіўна, што Пан Езус у сваім родным горадзе сустрэў недавер, а ў іншых месцах і сярод людзей больш чужых, у Ім бачылі Месію і Збаўцу.*

*Падобнае адбываецца і ў нашым паўсядзённым жыцці. Мы захапляемся новымі знаёмымі, якія цудоўна расказваюць пра Бога. Мы гатовы ехаць у далёкія санктуарыі, каб хаця б хвіліну памаліцца там. Купляем новы ружанец, а стары кідаем на дно шуфляды.*

*Бог, наадварот, прысутнічае ў тым, што самае простае і блізкае для нас. Таму Ён спрабуе дабрацца да нас праз нашых жонку ці мужа, дзіця, сабрата ў святарстве ці члена супольнасці, да якой належым. Ён не чакае кожны раз, што мы будзем хадзіць у аддаленую святыню, але запрашае ў бліжэйшы касцёл, нашу парафіяльную святыню. Не патрабуе, каб куплялі новы ружанец, Яму дастаткова старога і пацёртага, якім карыстаемся гадамі.*

*Перш за ўсё, Богу важна, каб мы маглі сесці разам з нашымі блізкімі. І лепш за ўсё там, дзе праходзіць наша штодзённае сямейнае ці грамадскае жыццё. І каб мы разам з імі памаліліся.*

*Творца хоча, каб мы паглядзелі на сваю жонку і свайго мужа як на веснікаў прысутнасці Бога ў нашым жыцці. Такое стаўленне вельмі простае і ў той жа час такое складанае ў рэалізацыі. Можа, менавіта таму св. евангеліст Марк падкрэсліў, што Езус “не мог там учыніць ніякага цуду” і “дзівіўся іхняму бязвер’ю”. Ніхто проста не верыў, што Збаўца можа быць так блізка, і гэта заблакіравала людскія сэрцы ад уздзеяння Божай ласкі.*

*Пане Езу Хрысце, учыні маё сэрца заўсёды адкрытым на дзеянне Тваёй збаўчай ласкі. Толькі Ты ў маім жыцці можаш здзяйсняць цуды!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ АДАМОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем радасці, здароўя, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны святлом Святога Духа, міласэрны Бог заўсёды аберагае Вас, а Найсвяцейшая Панна ўзнагароджвае і адорвае сваім заступніцтвам і любоўю.*

*Вернікі капліцы Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, даўгалецця, сіл і цярплівасці на нялёгкім шляху, на які паклікаў Вас Пан Бог, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай міласэрны Езус прытуляе Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае шчасліва перажываць кожны дзень сярод верных і добразычлівых людзей.*

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ЗАЛОГУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, шмат радасці ў душпастырскай паслузе і сіл для рэалізацыі ўсіх планаў ды намераў.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жырмунаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды імянін жадаем натхнення Святога Духа на кожны дзень душпастырсткай паслугі і апекі святога заступніка. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Усявышняга, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жалудка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ЭТЭЛЮ

*з нагоды імянін жадаем шмат сіл, нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям, шчодрых ласкаў ад Усемагутнага, апекі Найсвяцейшай Маці і моцнага здароўя на доўгія гады жыцця.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Гродна-Вішнявец*

### ДАРАГОМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЭЙСМАНТУ

*з нагоды імянін і 8-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сіл і стойкасці. Няхай Цябе заўсёды акружаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа, апека Найсвяцейшай Маці і святога заступніка, а на жыццёвым шляху няхай заўсёды сустракаюцца толькі добрыя і зычлівыя людзі.*

*Мама, тата і брат з сям'ёй*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ

*з нагоды імянін жадаем няспыннай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шчырых і зычлівых людзей побач.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жодзішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ АСТУКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і здзяйснення ўсіх мар. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а святы заступнік дапамагае рэалізоўваць планы і намеры.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Індуры*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ШЧАРБІЦКАМУ

*з нагоды імянін жадаем неабходных дароў Святога Духа, шчодрых ласкаў і блаславення ад Усемагутнага, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, добрага здароўя, сіл, радасці і зычлівых людзей побач.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Смаргоні*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПРОБАШЧУ ЯНУ ПУЗЫНУ, ЯНУ ВАРАНЕЦКАМУ І ПАЎЛУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем Божага блаславення, моцнага здароўя і цярплівасці. Няхай радасць пранікае ў Вашы сэрцы, апраменьвае штодзённыя ўчынкі і супакойвае паўсюдныя клопаты. Няхай святыя заступнікі і Маці Божая ахінаюць Вас сваёй апекай. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас.*

*Вернікі касцёла св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем, каб здароўе было моцным, сілы – нястомнымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды акружаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі, Езус Хрыстус няхай валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы заступнік заўсёды будзе побач.*

*Парафіяне з в. Моцевічы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЛАЗОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем, каб усемагутны Бог адарыў Вас усімі сваімі ласкамі і блаславеннем, дадаў упэўненасці, умацаваў сілы і напоўніў супакоем, Найсвяцейшая Маці каб ахінала плашчом сваёй апекі і любові, а Анёл-ахоўнік нястомна чуваў над Вамі.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Струбніцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПЯТРУ КУБЕЛЮ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, радасці, нястомных сіл для служэння Пану, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і сталай апекі святога заступніка.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Валдацішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ КУЧЫНСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды жыве спакой і рэалізуецца ўсё, аб чым марыце. Няхай святы заступнік нястомна чувае, а Найсвяцейшая Маці стала Вамі апекуецца. Шчыра дзкуем за прыгожую малітву і чулае сэрца.*

*Працаўнікі гродзенскай катэдры*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ УРБАНУ

*з нагоды імянін жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Божаму люду, шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе, нязломнай веры, душэўнага супакою і шчырай радасці ў сэрцы.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Парэчча*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, стала моцай нашай веры.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Барунаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем, каб усемагутны Бог і Панна Марыя заўсёды мелі Вас у сваёй апецы, Святы Дух натхняў на добрыя справы на карысць парафіі, а святы заступнік дапамагаў у складаных жыццёвых сітуацыях. Жадаем спакою, радасці, здароўя, здзяйснення ўсіх мар і стойкасці на святрскім шляху. Няхай Ваша сэрца надалей застаецца добрым і адкрытым на Бога і людзей. Дзякуем Усемагутнаму, што надзяляе Вас вялікай мудрасцю, каб даносіць да нас Божае слова і набліжаць да Пана Бога.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Граўжышках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ РАДЗЮКУ

*з нагоды імянін жадаем здароўя, радасці, Божага блаславення, а таксама рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай Вас заўсёды акружаюць прамяні Божай міласэрнасці, ласка Пана і апека Найсвяцейшай Маці.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПАЎЛУ УРБАНУ, ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ, ПАЎЛУ ГАРДЗЕЙЧЫКУ І ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем патрэбных ласкаў ад Езуса Хрыста, здароўя на доўгія гады, мноства радасных дзён, душэўнага супакою і цішыні ў сэрцы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ АСІПОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасных момантаў у жыцці і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай з Божай дапамогай здзяйсняюцца ўсе Вашы планы і намеры, а кожны дзень будзе напоўнены моцнай верай, непахіснай надзеяй і любоўю да Бога і бліжняга. Дзякуем Вам за добрыя словы і парады, адкрытае сэрца і адданую паслугу людзям.*

*Сям'я Снапко, Ліда-Індустрыяльны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем Божага блаславення, шчодрых ласкаў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай здароўе спрыяе Вам на працягу доўгіх гадоў, а радасць, любоў і шчасце будуць найлепшымі сябрамі. Шчасці Божа!*

*Ружанцовыя колы, апостальства "Маргарытка", Апостальства дапамогі чыстцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ СКУБУ

*з нагоды імянін і 30-годдзя з дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, апекі Маці Божай і ўсіх святых, дароў Святога Духа, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай кожны дзень прыносіць Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, служэнне, да якога ставіцеся так адказна, прыносіць толькі задавальненне і радасць, а агеньчык дабрыні, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць на працягу ўсяго жыцця. Няхай Усемагутны за ўсё Вас узнагародзіць.*

*Вернікі парафіі Раготна*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ГАВЕЦКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Усявышняга, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху. Дзякуем за адкрытае сэрца, шчырасць і чуласць.*

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і Апостальства дапамогі чыстцовым душам з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТАЛІЮ ВАЛЮКУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, непахіснай веры, Божага блаславення і плённай душпастырскай службы ў нашай парафіі. Няхай добры Бог адорвае радасцю і цярплівасцю, апраменьваючы сваім святлом, святы заступнік абараняе кожны дзень, Святы Дух падтрымлівае сваімі дарамі, а Панна Марыя ахінае мацярынскай апекай і любоўю, напаўняючы сэрца пачуццём бяспекі і спакою, каб шлях, па якім мы крочым разам з Вамі, быў плённы. Выражаем пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на ніве Пана, мудрыя навукі, якія дапамагаюць нам быць сапраўднымі хрысціянамі, за імкненне наблізіць нас да Бога, а таксама за апеку, дабрыню, увагу і час, які Вы ахвяруеце нам.*

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЯН КУЧЫНСКІ!

*З нагоды імянін і дня нараджэння дзякуем Вам за духоўную апеку, навучанне і малітвы, а таксама за штодзённую працу ў нашай парафіі. Божага блаславення, апекі Панны Марыі і святога заступніка, патрэбных дароў ад Хрыста, моцнага здароўя, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Мы ўдзячны Богу за тое, што Вы з намі, а таксама за цудоўны прыклад хрысціянскай шчырасці.*

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне і малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя і толькі радасных хвілін. Няхай Езус Хрыстус будзе праваднікам на ўсіх жыццёвых шляхах, Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары і дапамагае ў святарскім служэнні, а Найсвяцейшая Маці заўсёды будзе побач і апекуецца Вамі.*

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РУШНІЦКАМУ

*з нагоды імянін жадаем, каб кожны дзень быў асвечаны Божым блаславеннем і напоўнены Яго ласкамі, Найсвяцейшая Панна ахінала сваёй любоўю, а святы заступнік стала апекаваўся. Няхай здароўе мацнее, радасць і супакой будуць вернымі спадарожнікамі ў жыцці, духоўная моц узрастае з кожным днём, прамень Божай ласкі ззяе над галавой, а на дарозе святарства заўсёды гарыць агонь надзеі. Здзяйснення ўсіх мар, моцнай веры і добразычлівых людзей побач. Мы ўдзячны Пану Богу за Вас, да якога хочаццаісці і ў радасці, і ў горы, бо заўсёды зразумееце, дапаможаце і знойдзеце патрэбныя словы.*

*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі парафіі св. Станіслава, біскупа, і св. Максімільяна Кольбэ ў Каробчыцах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ САВІЦАМУ

*з нагоды юбілею 40-годдзя з дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, мудрасці і цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом і Яго ласкамі. Няхай Пан Бог блаславіць і абараняе ад бед, а Панна Марыя нястомна Вас ахоўвае.*

*Вернікі капліцы ў Вінцуках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПЯТРУ КУБЕЛЮ

*з нагоды імянін і дня нараджэння жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень сярод верных і добразычлівых людзей.*

*Вернікі, Колы Жывога Ружанца і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крупава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ШАНЧУКУ

*з нагоды імянін жадаем, каб кожны Ваш дзень быў асвечаны Божым блаславеннем і напоўнены Яго ласкамі. Няхай Святы Дух нястомна спасылае на Вас свае дары, Маці Божая ахінае любоўю, а святы заступнік стала апекуецца. Будзьце мужным, цярплівым, добрым і заўсёды давярайце Пану.*

*Вернікі і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гожскай парафіі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом і нястомна апекуецца.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Капцёўка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНАТОЛЮ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем Божага блаславення на кожны дзень, доўгіх гадоў жыцця, здароўя, стойкасці ў святарскай паслузе, шчодрых дароў ад Хрыста і нязгаснага запалу да абвяшчэння Божага слова.*

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Міхалішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ БЕЛАНОСУ

*з нагоды імянін і гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем радасці, моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Панна Марыя ахінае Вас любоўю і апекай, а таксама выпрошвае ў свайго Сына неабходныя ласкі для Вас. Дзякуем за прыгожы прыклад веры, ахвярную працу і зычлівасць.*

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Макараўцаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТАЛІЮ ЧУРГАНУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, сілы, моцнай веры, радасці ў святарскай паслузе! Заўсёды будзьце акружаны прамянямі Божай міласэрнасці, Божай ласкай і апекай Найсвяцейшай Маці!*

*Члены Ружанцовага кола Маці Божай Вастрабрамскай*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды імянін жадаем, каб Найсвяцейшая Маці заўсёды асвячала Ваш шлях, добры Езус трымаў Вас ля свайго сэрца і адорваў усімі неабходнымі ласкамі, а Святы Дух быў бясконца шчодры на свае дары. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою і радасці.*

*Люцыя Лабэцкая, Станіслава Сідаровіч, Марыя Вішнеўская і Марыя Скорб з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога заступніка, а таксама моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе асветлены прамянямі Божай міласэрнасці.*

*Ружанцовыя колы і парафіяне касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2356; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.